# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

Viestki j Paviedamleńni

Сусьветнае сеціва: e-krama.com, pahonia.com
Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 1 (611)
Студзень 2017 г.


**Зычым нашым чытачам вясёлых Калядаў
і шчасьлівага Новага 2017 года!**

## Канцэрт Лявона Вольскага ў Нью-Ёрку

У нядзелю, 11 сьнежня, у Нью-Ёрку ў бары “Дром” на авэню А на Мангэтане з дапамогаю Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” адбыўся канцэрт славутага беларускага рок-музыкі Лявона Вольскага, падрыхтаваны да гадавіны заснаваньня праекту “Дзед Барадзед”. Перад гэтым Лявон Вольскі выступаў у Нью-Ёрку 4 гады таму.

Л. Вольскі быў удзельнікам, салістам і кампазытарам, славутага гурта “Мроя”, першая кружэлка якога выйшла яшчэ ў савецкі час, а з 1994 года стаў звацца “NRM” і выпусьціў восем альбомаў . Сп. Вольскі таксама супрацоўнічаў у праектах “Народны альбом”, “Крамбамбуля” ды іншых. Вёў аўтарскую радыёперадачу “Квадракола”. Выдаў 4 сольныя альбомы, апошні зь якіх “Псыхасаматыка” выйшаў сёлета, а таксама некалькі зборнікаў паэзіі й прозы.

Было цудоўна. Імпрэза пачалася конкурсам на веданьне беларускай мовы, удзельнікі атрымалі прызы. У першым аддзяленьні канцэрту музыка, засьпяваў свае клясычныя песьні, пачаўшы з рэпэртуару “Народнага альбому”, а таксама песень зь “Белай яблыні грому”. У другім аддзяленьні прысутныя пачулі шмат новых твораў, сярод якіх былі песьні з альбомаў “Грамадазнаўства” і “Псыхасаматыка”. Заля ўзрушана рэагавала на “Простыя словы”, “Маё каханьне”, “Паветраны шар”, “Мінск-Менск” “Госьці”. У залі лунալі бел-чырвона-белыя сьцягі, шмат прысутных былі ў саколках з нацыянальнай атрыбутыкай.

Асобным хітом была славутая песьня “Тры чарапахі“. Але да таго, каб змусіць музыку на выкананьне песьні “Лёгкія-лёгкія”, зь якой ён выступае толькі пры надзвычай энтузіястычнай рэакцыі залі, усё ж не дайшло. Затое на “біс” прагучэлі песьні “Маё пакаленьне” і “Ламай сцэнар”. Затым кіраўнікі праекту Дзед Барадзед сп-ня Ганна Шарко і сп. Алесь Мазгавы, якім належыцца падзяка за выдатную арганізацыю імпрэзы, выйшлі зь вялікім дранікавым тортам, на якім гарэлі бэнгальскія агні. І напрыканцы ўсе маглі пакаштаваць дранікавага торту, а таксама набыць кружэлку Лявона Вольскага, сфатаграфавацца з музыкам, узяць у яго аўтограф.

**Віталь ЗАЙКА**




*Здымак Аляксандра Мікулы*

# Сьнежаньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 17 сьнежня, прайшоў чарговы сьнежаньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку старшыня Згуртаваньня сп. Віталь Зайка, распавёў для асобаў, што прыйшлі ўпершыню, пра мэты і прынцыпы арганізацыі і аспэкты яе дзейнасьці.

Затым перад прысутнымі выступіў сп. Алесь Шатэрнік, скульптар і мастак, сябар мастацкай суполкі “Пагоня”, які стварыў галерэю выяваў славутых асобаў Беларусі, такіх як Рагнеда, Вітаўт, Мікола Гусоўскі, Максім Багдановіч, Якуб Колас і кампазыцыі “Крывічы” і “Разьвітаньне”. Ён таксама аўтар кнігі “Сонцакрыж” і, супольна з мастаком Алесем Марачкіным, мастацкага праекту “Звон Свабоды”.

Сп. Шатэрнік распавёў пра сябе, свой шлях да мастацтва і ў мастацтве. “Мая муза маўклівая, таму лічу лепей паглядзець на мае творы і скласьці сваё ўражаньне. Шмат з падзеяў маленства апісаныя ў кнізе “Сонцакрыж” і розныя выпадкі з мастацкай штодзённай працы. Лічу, што палітыка і мастацтва не павінны мяшацца разам. Але з другога боку, мастак ня можа не зьвяртаць увагу на падзеі, што адбываюцца вакол яго, што адбываецца зь ягонай краінай. Таму мастак ня мусіць маўчаць і быць абыякавым, бо яшчэ ў творах Дантэ казалася пра найглыбейшую ступень пекла, куды адсылалі людзей абыякавых.” Сп. Шатэрнік накрэсьліў этапы свайго мастацкага шляху і творы, якія выйшлі зь ягоных рук, распавёў пра кампазыцыю “Гуканьне вясны” ў Менску на праспэкце Пераможцаў), пра крыж і шыльду “Пакутнікам Беларусі” і “лаву Клінтана” у Курапатах – падарунак ад амэрыканскага народу, што была разьбітая і пасьля адрэстаўраваная сп. Шатэрнікам. Кампазыцыя “Крывічы” перш экспанавалася ў Полацку, для якога і створалася, але цяпер стаіць у мікрараёне Малінаўка ў Менску.

Сп. Шатэрнік распавёў гісторыю з арыштам “Звону Свабоды”, якая адбылася ў драматычныя дні масавага народнага пратэсту супраць фальсыфікаваных выбараў узімку 2006 года на “Плошчы Каліноўскага” у Менску. “Тады быў такі народны ўздым, і хацелася стварыць нешта ў лад яму, незвычайнае, кінэматычнае, не статычную выяву. І вось прыйшла ідэя звону. Звон Свабоды! Хай абвяшчае, заклікае, абуджае! Стварыў эскіз, з Марачкіным намалявалі, са словамі нашых нацыянальных апосталаў. Вызначыліся з памерамі. Сабралі грошы, адлілі ў бронзе вагою 120 кг. Прыйшлі палітыкі апазыцыйныя, каб дапамагчы перавезьці звон на Плошчу Каліноўскага і паказаць людзям. Дамовіліся. Але ўначы зьявіліся прадстаўнікі рэжыму, міліцыя, і звон быў арыштаваны. Давялося яго пасьля вызваляць, як і шмат каго з удзельнікаў падзеяў таго году на Плошчы.



Скульптар Алесь Шатэрнік

Улады ведаюць, што я “бээнээфавец”, з замовамі й выставамі справа ідзе туга, адчуваецца ўціск”. Разам з тым, адзначыў скульптар, яму ўдалося перамагчы на конкурсе, і цяпер ягоны твор “Разьвітаньне” стаіць ля ўваходу ў новы будынак Музэю Айчыннай вайны ў Менску. “Задума была яшчэ здаўна зрабіць твор пра падзею з жыцьця, з гісторыі ўласнай сям’і – як у 1943 годзе мая маці праводзіла ў войска бацьку і зашыла яму ў шынэль маленькую іконку, выяву сьв. Мікалая, каб аберагчы на вайне. І вось стварыў кампазыцыю, як яна жагнае яго перад разьвітаньнем. Жэст гэты – рука. Можна нават адну руку зрабіць – вельмі моцны сымбалізм. Падаваў на конкурс ня дужа спадзяючыся на перамогу, бо вядома ж, як улады ставяцца да “бээнэфаўцаў”. Але ўсё ж на мастацкай радзе, у якую, дарэчы, уваходзіў і той Ігар Карпенка, камуніст, што цяпер міністрам адукацыі, скульптура ўсім вельмі спадабалася і была абраная для ўсталяваньня. Вось так нечакана, можна сказаць, быў прызнаны афіцыйнымі ўладамі”.

Сп. Шатэрнік распавёў гісторыю стварэньня мастацкай суполкі “Пагоня”, якую заснавалі 25 год таму патрыятычныя сябры Саюзу мастакоў Беларусі. Цяпер выйшаў альбом-каталёг “Пагоні”, які сп. А. Шатэрнік прывёз у Нью-Ёрк, і прысутныя на сходзе мелі магчымасьць азнаёміцца зь ім.

Сп. А. Шатэрнік параўнаў Менск і Нью-Ёрк, адзначыў, што Менск добра ўпрыгожаны і дагледжаны горад, хоць і благая цяпер эканоміка. Але там няма неабходнай свабоды для творчасьці, палітыка застаецца крытэрам фаварытызаваньня для ўладаў. Таму ягоныя адносіны да гораду можна перадаць словам “амбівалентнасьць”. А Нью-Ёрк іншы, хоць менш “прычасаны”, але спрыяючы творчым памкненьням. І гэта такое сховішча сюжэтаў! Як прыклад, мастак распавёў пра жыцьцё мастака і скульптара Генрыха Дмахоўскага з-пад Мёраў, які браў удзел у паўстаньні 1830 года ў Беларусі, потым жыў на чужыне, вырабіў саркафаг Напалеона. Пасьля прыехаў у ЗША, стварыў скульптуры Тадэвуша Касьцюшкі й Казіміра Пулаўскага, што змагаліся за свабоду Злучаных Штатаў. Бюсты Касьцюшкі, Вашынгтона, Джэфэрсана, Франкліна дасюль знаходзяцца ў Кангрэсе ЗША. Пасьля сьмерці жонкі й дзяцей Дмахоўскі вярнуўся ў Беларусі і падчас Студзеньскага паўстаньня 1863 года стаў паўстанцкім камісарам Дзісенскага павету. Ён загінуў у баі з расейскімі войскамі й пахаваны пад Докшыцамі. “Жыцьцё гэтага чалавека лучыць Беларусь і Амэрыку, і гэта далёка не адзіная такая повязь”.

Сп. Шатэрнік адзначыў, што мае задуму стварыць сэрыю мастацкіх выяваў у форме мэдалёў, што былі б прысьвечаныя выхадцам зь Беларусі, што паказалі сябе ў Амэрыцы і засталіся ў памяці абодвых народаў. Сярод іх Касьцюшка, Дмахоўскі, Давід Сарноў, заснавальнік Радыёкарпарыцыі Амэрыкі, кінапрадусэр Луіс Маер родам зь Менску, і шмат іншых. Таксама мастак распавёў пра свой праект помніка загінулых у тэракце 11 верасьня 2001 года – перакуленая гіганцкая піраміда са шкла, унутры якой пульсуючае сэрца чалавека, створанае з рубіну. “Можна каб пульсаваньне адбывалася па захаваных кардыяграмах некаторых з ахвяраў тэракту – такое набліжэньне сымболяў і рэальнасьці”.

Прысутныя зь цікавасьцю праслухалі гутарку са скльптарам і азнаёміліся з альбомам-каталёгам суполкі “Пагоня” а таксама з іншымі прынесенымі ім публікацыямі.

У канцы сходу адбыліся знаёмствы з гасьцямі Згуртаваньня “Пагоня”, а затым калегаваньне можна было працягнуць і пашырыць за сьціплымі пачастункамі.

**Віталь ЗАЙКА**

# Інтэрвію зь Лявонам Вольскім напярэдадні ягонага канцэрту ў Нью-Ёрку 11 сьнежня 2016 г.

**Гутарку вёў Віталь ЗАЙКА**

*В. З.: Сп. Лявон, вітаю вас у Нью-Ёрку! Мы з вамі бачымся тут ужо ня першы раз, але хацеў бы напачатку папрасіць вас коратка, у некалькіх сказах, акрэсьліць свой творчы шлях, калі ён пачаўся, пра адукацыю – каб людзі крышку больш даведаліся пра вашае жыцьцё.*

**Л. В.**: Вы ведаеце, такі ў мяне творчы шлях, што яго ў трох сказах не апішаш. Прытым творчы ў якім сэнсе? Я ж ня толькі музыка, я яшчэ і мастак, і літаратар. Ну, але як ужо казаць пра музыку, дык мой мастацкі шлях пачаўся, калі ў Менскай мастацкай вучэльні імя Глебава сабраліся некалькі навучэнцаў і стварылі гурт “Мроя”. Гэта было ў 1982 годзе. Пару гадоў ігралі сабе, а тады вырашылі – пісаць песьні на беларускай мове. І менавіта тады пачаўся мой сьвядомы беларускі творчы шлях. І гэты шлях уключае шмат альбомаў, і сольных, і ў складзе гуртоў “Мроя”, “NRM”, і гурта “Зэт” – быў у мяне такі. І ў праект “Народны альбом” быў вялікі ўнёсак, бо напісаў музыку да большасьці песень у ім. Потым быў праект “Я нарадзіўся тут”, дзе таксама шмат маіх песень. Быў вельмі пасьпяховы праект “Крамбамбуля”. Два зборнікі сваёй паэзіі выдаў, зборнік апавяданьняў. Комікcы публікаваў, мастацкім дызайнам займаўся. Ну а так – з канцэртамі выступаў.

*В. З.: У вас быў пэўны пэрыяд забароны на прафэсію ў Беларусі, не дазвалялася выступаць...*

**Л. В.**: Ён ня тое, што “быў”! Ён цягнецца, гэты пэрыяд, пры рознай ступені актыўнасьці, ужо 10 гадоў.

*В. З.: Такім чынам можна сказаць, што гэты пэрыяд ня скончыўся?*

**Л. В.**: Не. Не. Тое, што цяпер у Менску дазволілі прадстаўляць “Народны альбом” – нічога ня значыць. Хачу запэўніць усіх. Таму што мы яшчэ падавалі на мой сольны праект, на ўдзел у адным фэстывалі. І там сказалі на гэта – не. Тыя нейкія разавыя паслабленьні нельга лічыць зьменай палітыкі. Проста хачу давесьці да ўсіх, што пры сёнешняй уладзе ў Беларусі ніякай свабоднай музыкі ня будзе. Ціск будзе то згасаць, то зноў вяртацца, бо калі тыя людзі, чыноўнікі, адчулі смак забаронаў, дык яны і далей будуць гэтым займацца, зь вялікай асалодай. Гэта ім вельмі падабаецца.




Здымак Аляксандра Мікулы

*В. З.: Ці можна сказаць, што вашыя выступы, кантакты ўжывую з аўдыторыяй адбываюцца цяпер пераважна на чужыне?*

**Л. В.**: Ну чаму, не. Апошнім часам – як вось сёньня тут, у Нью-Ёрку – я проста зьяўляюся з гітараю недзе ў Менску, у нейкім бары. Чамусьці людзі за дзень, за два даведваюцца пра гэта – і прыходзяць, і з задавальненьнем слухаюць.

*В. З.: Вы ня першы раз выступаеце перад беларускай аўдыторыяй у Амэрыцы. Што можаце сказаць пра яе, можа што зьмянілася ў параўнаньні зь першымі вашымі выступамі?*

**Л. В.**: Цяжка мне меркаваць пра гэта, бо даўно ня йграў тут, ужо 4 гады. За гэты час магло шмат што зьмяніцца, маглі зьмяніцца людзі – хтосьці зьехаў, хтосьці новы прыехаў. Сёньня я вось якраз і зраблю тэст, пагляджу, што новага ў Амэрыцы. Бо ў мяне яшчэ будуць канцэрты ў Вашынгтоне і ў Чыкага. Паглядзім! Вельмі цікава, як яно мяняецца. Бо, напрыклад, я нядаўна іграў у Празе, і там прыйшла на канцэрт абсалютна іншая генэрацыя, ня тыя людзі, што звычайна прыходзілі. Прыйшла моладзь, зусім новая аўдыторыя, тыя, што толькі-толькі прыехалі.

*В. З.: Ёсьць у некаторых такая апінія, што вы – гэта хіба не зусім карэктна казаць – чалавек ня самага маладога ўзросту для сучасных 20-гадовых...*

**Л. В.**: *(Сьмяецца)* Ну, але яны ходзяць на канцэрты! А нават і маладзейшыя ходзяць. Вельмі шмат маладых людзей бывае! Таму актуальныя, значыць, і музыка, і тэксты для гэтага пакаленьня. Я ня скарджуся, што маладое пакаленьне мяне ігнаруе. Наадварот! Ходзяць, канешне, і сталага ўзросту людзі, якія слухалі калісьці ў свой час “NRM”. Але ўсё болей і болей маладых, па 18-20 гадоў. На Фэйсбуку ёсьць у мяне неафіцыйны такі фан-клюб, які, праўда, у асноўным складаецца зь дзяўчат, але ня толькі – дык вось амаль усе там зусім маладыя.

*В. З.: Пасьля 4-гадовага перапынку ці плянуеце часьцей прыяжджаць у ЗША?*

**Л. В.**: Я хацеў бы прыяжджаць часьцей, бо атрымлівалася толькі раз на 3 ці 4 гады. Так, хочацца тут бываць часьцей, каб не губляць гэтую сувязь з людзямі, а тут жа шмат нашага народу. Хацелася б быць бліжэй да іх. Раней гэта было складаней, цяпер набыцьцё візы спрошчанае, і яе можна проста падоўжыць. Пляную бываць часьцей, і наступны прыезд, думаю, будзе ўжо напрыканцы вясны надыходзячага году. Ну, але паглядзім! Раптам сёньня ня будзе народу, а будзе нейкае фіяска *(сьмяецца)*. У кожным разе, вялікі дзякуй за запрасіны, і будзем на сувязі.

*В. З.: Вялікі дзякуй вам, і зычу шмат адданых слухачоў!*

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Праўда-матка пра fake news

Ніяк не магу адыйсьці ад глябальнага і вярнуцца да амэрыканскага. Аднак часьцяком два гэтыя паняткі разьмежаваць немагчыма. Амэрыка прадукуе глябальнае, а пасьля глябальнае зьядае свой уласны хвост.

Большасьць, думаю, чула пра зьяву выдумак (fake news). У штабе Гіляры кажуць, што з-за іх прайгралі выбары. Кіраўнік Эўрапарлямэнту Марцін Шульц прапанаваў агульнаэўрапейскі закон супраць фальшывых навінаў. Нават фэйсбук аб’явіў ім вайну. Але што гэта за дзіва такое?

На самой справе ў фальшывых навінаў няма палітычнай прыналежнасьці, іх выкарыстоўваюць як з аднаго так і з другога боку, гэта хутчэй комплексная філязофская зьява. Каб зразумець яе, трэба зьвярнуцца да разуменьня праўды ў постмадэрнізме, які паставіў пад сумніў само існаваньне праўды. Заўважце, наколькі часта вашыя знаёмыя робяць постмадэрныя заўвагі тыпу: “У кожнага свая праўда”, “Няма адной праўды”, “Праўды няма, ёсьць толькі погляды (за Флаберам)”. Параўнайце з беларускімі прыказкамі і фразеалягізмамі (мудрасьцю нашых продкаў): праўда вочы коле; праўда, як на вярбе ігрушы (пра ману); рэзаць праўду ў вочы; служыць верай і праўдай; што праўда, то праўда. Адназначнае стаўленьне да праўды і хлусьні нашых продкаў не ўнікальнае, гэта агульная рыса ўсёй лацінскай цывілізацыі, да якой мы належым, а агульнай плятформаю якой сталася старажытнагрэцкая філязофія.




Справа не ў існаваньня праўды ці яе адсутнасьці. Праўда існуе, нават калі яе аспрэчваць, яна ўсё адно ўсплывае на паверхню нават тады, калі па нейкай прычыны доўга застаецца схаванай! Тое, што праўду не магчыма перамагчы, ведаюць нават яе апанэнты, адсюль і спроба яе размываньня, для чаго ў філязофіі і літаратуры менавіта і быў паклікані постмадэрнізм. Што казаць пра гуманітарныя навукі, калі тое самае відавочней у такой навуцы як мэдыцына. Колькі разоў вы чыталі, што кава дрэнна ўзьдзейнічае на арганізм, каб праз дзесяцігодзьдзе даведацца, што гэта зусім наадварот. Тое самае з халестэрынам, сьпярша ёй быў дрэнны, а цяпер аказаўся добрым. Курэньне наадварот, сьпярша было няшкодным, нават карысным, пасьля аказалася вельмі дрэнным. Ці калі браць кліматалёгію, перш змагаліся з глябальным пахаладаньнем (паглядзіце навуковыя артыкулы 70-х гадоў), пасьля пайшлі на вайну з глябальным пацяпленьнем, каб у выніку аб’явіць бой “глабальным пераменам”. Перамены бываюць розныя – таму людзі ня хутка з’арыентуюцца, што гэта падман. А ўвесь гэты час на гэтай “сваёй праўдзе” нажываюцца такія прайдзісьветы як Ал Гор, былы кандыдат у прэзыдэнты ЗША, па сумяшчальніцтву кліматычны змагар.

Стваральнікі зьявы выдуманых навінаў ня ставяць за мэту некага падмануць. Вось яна страшная праўда. Стваральнікі зьявы выдуманых навінаў запусьцілі гэты вірус у глабальную прастору як мэханізм размываньня праўды. Толькі так можна аспрэчваць тое, што відавочнае, і тое, што ёсьць тэндэнцыяй. Калі раніцай чытаеце ў навінах, што нападнік-тэрарыст быў агентам Ісламскай дзяржавы, а ўвечары даведваецеся, што на самой справе гэта быў барадаты хрысьціянін з французскай правінцыі, то вас менавіта прывучаюць усё і няспынна ставіць пад сумніў. Гэта яшчэ адна іхная прылада сьвятой вайны са стэрэатыпамі – бачыш, маўляў, як ты моцна, хлопец, памыляўся, як табе, дзеўка, ня сорамна...

***Віталь ВОРАНАЎ***

---

### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

**І. і В. Кулеш** .................. **120**
**Д. Дземчанка** .................. **60**
**Н. Кацельнікава** .................. **60**
**В. Міклашэвіч** .................. **60**
**В. Недагрэенка** .................. **60**
**З. Немчыновіч** .................. **60**
**І. Пядухаў** .................. **60**
**С. Радзько** .................. **60**
**Т. Раманоўская** .................. **60**
**М. Самусь** .................. **60**
**М. Станішэўская** .................. **60**
**М. Тарановіч** .................. **60**

**Усім шчыры дзякуй!**

---

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка** *Viktar Yedzinovich*.

---

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **14-га студзеня 2017 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе. Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы сайт **pahonia.com***

---

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня ***Весткі й Паведамленьні*** :

**Д. Дземчанка** .................. **30**
**Н. Кацельнікава** .................. **30**
**В. Кіпель** .................. **30**
**І. Кулеш** .................. **30**
**В. Міклашэвіч** .................. **30**
**В. Недагрэенка** .................. **30**
**З. Немчыновіч** .................. **30**
**С. Радзько** .................. **30**
**А. Солад** .................. **30**
**М. Тарановіч** .................. **30**

**Шчыры дзякуй!**

---

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

---